Пераклад гэтага закону па беларускую мову даручан быў праз члена асобнай парады па справі падгатаваньня праекту статуту аб выборах да Установчага Сойму Я. Варонку і вядомаму беларускаму пісьменніку Д. Жылуновічу. Першы раздзел статуту у ліку 20.000 экз. ужо аддрукованы і пашыраецца асобным Беларус. Камітэтам па справам аб выбарах да Уст. Сойму [Петраград, Знаменск., 36—54.]

**Рэквізыцыя памешкання для Вялікай Беларускай Рады і для Выканаўчага Камітэту Часовае Цэнтральнае Вайсковае Рады.**

II-я сэсія Цэнтральнае Рады беларускіх арганізацый і зьезд беларусоў воінаў адбываліся у памешканні камісарыату (б. губэрнатарскі дом, Пляц вольнасьці). Гэта памешканне і рэквізована дзеля патрэб цэнтральных беларускіх арганізацый. 27-га кастрычніка мінскія «большэвікі» намагаліся забраць яго сабе і паслалі туды свой ваенны патруль, але посьля перагавораў прышлі к паразуменню з загадчыкамі цэнтральных беларускіх установ і патруль свой зьнялі. Цяпер беларусы паставілі уласную варту і моцна трымаюць памешканне у сваіх руках.

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

**Арэшт Правіцельства.**

24-га кастрычніка пад загадам «большэвікоў» пачалося у Петраградзі поўстанне. «Большэвікі» дамагаліся скінуць Часовы Урад, захапіць уласьць і такім чынам зрабіць у Расіі сацыяльную рэвалюцыю і установіць сацыялізм. 26-га кастрычніка у Зімнім палацу арыштован Часовы Урад, апрач міністра старшыні А. Ф. Керэнскага, каторы падчас паўстання трапіў на фронт і адтуль пайшоў з войскам на Петраград. Заміж сацыяльнай рэвалюцыі пачалася анархія і крывавая грамадзкая вайна. Пэўных вестак аб тым, што рабілася і што цяпер робіцца у Петраградзі— -німа. «Большэвікі, захапіўшы уласьць, разагналі штыкамі Раду Рэспублікі і налажылі на ўсё пільную цэнзуру. Г. Мінск 28-га кастрычніка быў саўсім адрэзан ад Петраграду і жадных вестак адтуль не было. Рада с. і р. дэпутатаў у Мінску абвесьціла, што ўся ўлада ў горадзі перайшла да яе. Па гораду расклеяны аб гэтым афішкі, на Плацу вольнасьці (каля сабору) стаялі кулемёты, разьежджалі па горадзі патрулі, але увесь час спакойна.

Вялікая Беларуская Рада гэтак сама выдала да народу беларускага «грамату», у якой заклікае усіх трымаць парадак і спакой.

**Конфэрэнцыя нацыянальнасьцяў.**

25-га верэсьня у г. Валку адбылася конфэрэнцыя дэлегатаў нацыянальных і гарнізонных арганізацый поўначнага фронту.

Былі прэдстаўнікі ад украінцаў, беларусаў, латышоў, палякоў, літоўцаў, мусульман, жыдоў і эстонцаў. Конфэрэнцыя цягнулася некольки дзён. За старшыню быў Ліскун,—старшыня блоку нацыянальных арганізацый XII арміі.

**Домоўласьнікі і кватэранты.**

На пасядзэньню Мінскай Гарадзкой Думы 4 кастрычніка была выбрана камісія для апрацаваньня правілаў для пакояў згоды з прэдстаўнікаў домаўласьнікаў і кватэрантаў, запрапанаваная членам думы, яг. Гельтманам. У камісію выбраны п. п. Янкоўскі, Альшук, Шапіра, Амброшкевіч і Зіміонка.

З дакладу п. Альшука выявілася, што домаўласьнікі, выжываючы с кватэраў прыкрых сабе кватэрантаў, дазваляюць сабе самавольства, выймаючы с кватэр вокны, дзьверы, разбурываючы каміны і т. д.

**Справа міру і Установчае Рады на Украіні**

На пасядзэнні 19 кастрычніка украінскае Малой Рады была абвешчана гэтакая заява пра справу замірэньня:

«Зважаючы на тое, што адпаведальныя расійскія органы дакладна ужо разважалі справу міру, а рэвалюцыйная расійская дэмакратыя нават выправіла свайго прэдстаўніка па Парыжскую конфэрэнцыю хаўрусных прэдстаўнікоў, фракцыя украінскіх с.-р. так сама парушае у Цэнтральнай Радзі гэтую справу. Расійская дэмакратыя вельмі турбуецца, ў наказі, які яна дала свайму прэдстаўніку на Парыжскай канфэрэнцыі, аб долі рожных краёў і народаў, а пра Украіну і украінскія землі ня ўпамінае нічога.

Зауважыўшы гэтак сама тое, што міністр заграпічных спраў у сваей астатняй прамові досыць ясна падкрэсьліў сваю ніпрыхільнасьць да самаадзначэння украінскага народу, а Мілюкоў нават падтрымаў паклёп пра нямецкае падтрыманне украінскага руху, фракцыя заклікае Цэнтральную Раду выславіць пратэст на мірную праграму расійскай дэмакратыі і выставіць сваю мірную праграму і дамагацца прэдстаўніцтва на мірнуй конфэрэнцыі ад Цэнтральнае Рады,—тым больш, што ёсьць ведамасьці, што нават прэдстаўнік казакоў мае быць на конфэрэнцыі».

Посьля кароткіх дэбатаў, ухвалілі дакладна абгаварыць гэтую справу у найблізшым пасядзэнні, а тым часам перадаць справу асобнай камісіі с прэдстаўнікоў фракцый.

Пра Украінскую Установчую Раду абвешчана гэтакая формула:

«Выслухаўшы заяву Гэнэральнага Сэкрэтарыату і яшчэ раз падкрэсьліваючы патрэбу еднасьці фэдэрацыйнай расійскай рэспублікі, прызнаючы, што воля народаў Украіны да самаадзначэньня можа быць выяўлена толькі праз Установчую Раду Украіны і што такім чынам выяўленая воля народаў Украіны будзе палагоджана з воляю усіх народаў Расіі, выяўленаю праз Усерасійскі Установчы Сойм, і выслаўляючы пэўнасьць што права народаў Украіны будуць цалком забезпечаны на Усерасійскім Установчым Соймі,—Малая Рада пераходзіць да чарговых спраў.»

Гэта формула пры агульных воплесках была аднастайне прынята.

**«Новая Жизнь» аб Украіні.**

«Новая Жизнь,» с.-д. газэта, каторую рэдактуе вядомы расійскі пісьменнік М. Горкі, выдрукавала стацьцю пра украінскі сэпаратызм. У стацьці «Украинцы и миръ» газэта піша: «Украинскій войсковой съѣздъ западнаго фронта постановилъ требовать отъ правительства немедленнаго начала мирныхъ переговоровъ и немедленнаго заключенія перемирія. Не довольствуясь этимъ, съѣздъ постановилъ, что центральная рада, не ожидая отвѣта правительства, должна взять дѣло окончанія войны въ свои руки, такъ какъ грозный часъ не ждетъ. Только для видимости украинцы адресуютъ свое требованіе правительству, задачу же вести мирные переговоры они теперь возлагаютъ на центральную раду. Это порученіе можетъ быть истолковано лишь какъ попытка сепаратнаго мира Украины съ Австріей и Германіей. Если рада послѣдуетъ требованію фронтовыхъ украинцевъ и выступитъ со своей собственной внѣшней политикой, то она только выроетъ глубокую пропасть между Украиной и остальной Россіей и создастъ убійственный аргументъ противъ самостоятельности Украины. Путь, указываемый украинскимъ съѣздомъ, не только не приведетъ къ ликвидаціи войны, но поставитъ подъ вопросъ само существованіе Украины, какъ автономной области.»

Так прамоўляюць расійскія сацыялісты. У той час, як украінцы горача узяліся за адбудаванне свайго краю, у расійскум «предпарламентѣ» ідуць нісканчоныя гаворкі, спрэчкі, перакоры, і расійская дэмакратыя не здолала знайці паразумення нават у агульнай справі абароны дзяржавы. Выявілася, што расійская Рада Рэспублікі проста не магла правесьці якой-небудзь формулы у справі абароны, бо не згуртавала большасьці. «Не згуртавала большасьці,»—а гэта азначае, што яна не мае ні уплыву, ні аўтарытэту, як ціперашнія рады работніцкіх і салдацкіх дэпутатаў, якія аджылі свой век, і істненне іх страціла жадны сэнс. Расійская дэмакратыя не можа аддзяліць важнага ад выпадковага, патрэбнага сягодня ад патрэбы заўтрашняга,—не можа злучыцца нават на дзелі ўласнага захавання. Яны нічога ня бачаць, нічога не разумеюць і нічаму не навучыліся, бо, мабыць, ніякая навука ім не дапаможа. Самі сябе ўратаваць не могуць, а даюць параду другім ды яшчэ палохаюць... Безнадзейна хворыя людзі!

**Латышская нацыянальная рада.**

Латышскія часовыя земскія рады, грамадзянскія і палітычныя арганізацыі, цэнтральныя органы бежэнскіх і вайсковых арганізацый і латышскія палітычныя партыі пастанавілі ніадкладна арганізаваць латышскую нацыянальную раду, каторая будзе загадваць усімі нацыянальнымі справамі латышскага народу у Латвіі, у складзі 60 прэдстаўнікоў паменёных арганізацый.

Першая парада адбудзецца 29-га кастрычніка у г. Валку на Ліпляндшчыні.

Рэдактар Я. Лёсік.







Выдавец: «Т-во Беларускай Культуры.»

Друкарня Н. М. Нахумова, [старшага].